# Šlach Biełaruskaha Studenta

MIESIAČNY DADATAK DA „ŠLACHU MOŁADZI".

№ 5 (9) Vilnia, červień 1939 h. Hod II.

## Na viosku da pracy!

Hety numar „Šlachu Biełaruskaha Studenta" budzie apošnim u 1938—39 akademickim hodzie, katory dabiahaje ŭžo da kanca. Pačynajem letnija kanikuły, pierarývajem svaju pracu ŭ universyteckich muroch, u jakija vierniemsia paśla niekalki miesiacaŭ. Nia ŭsie z nas buduć mieć zasłužany adpačynak. Mnohim prydziecca ciažka fizyčna papracavać, kab zarabić na dalejšyja studyi. Nia hledziačy na heta, abaviazkam biełaruskaha studenta jość pamiatavać ab tym, što jaho vyhladajuć, čakajuć baćki, braty, susiedzi i uvieś Biełaruski Narod, jak svajho pieradavika i pamacnika ŭ zmahańni za śviatlejšuju budučyniu.

Sioleta voču biełaruskaha sialanstva, da jakoha vybirajucca celyja addziełų polskich studentaŭ z svaimi planami, buduć jašče z bolšaj tuhoj šukać **svaich studentaŭ Biełarusaŭ**, sialanie buduć čakać na ichnija słovy, na ichniuju maralnuju pomač. U takich abstavinach biełaruskaje studenctva musić natužyć tak svaje siły, kab vydabyć z siabie maksimum enerhii i kab sapraŭdy ŭsiudy niaści śviatło, słovy paciechi i nia tolki abaronu ad niepažadanych dla Biełaruskaha Narodu ŭpłyvaŭ, ale pryčyniacca da taho, kab biełaruski adradženski ruch mahutnieŭ i pieramožna jšoŭ napierad. Biełaruski Student musić u pieršuju čarhu niaści śviatło i nacyjanalnaje ŭsviedamleńnie narodnym masam. Adnačasna pašyrać svaju presu, knižki, pamahać zakładać kooperatyvy spažyvieckija, vytvorčyja, zaachvočvać ludziej da raźvićcia promysłu i handlu, dajučy adnačasna tyja fachovyja parady, jakija sami zdabyli praz svaju navuku, vučyć moładź žyć kulturna, šanavać svaje zvyčai, pieśni, movu i h. d. Pole da dziejańnia sapraŭdy vialikaje i udziačnaje. — Dyk družna ŭsie—da pracy!..

## Важная справа

Позна прыйшло нацыянальнае адраджэньне Беларусаў у параўнаньні з іншымі народамі Эўропы. Дзякуючы надзвычай няспрыяючым абставінам палітычнага й грамадзкага жыцьця, беларускі народ праспаў доўгія вякі. Асабліва-ж рэзка адбіўся гэты сон на нашай культуры.

Бо даўно ўжо мінулі — пад акампаніямэнт сьвісту прыгоннага бізуна й здрадна-спакойных, бога-пакорных казаньняў чужых папоў ці ксяндзоў, — тыя прыгожыя ясныя часы, калі беларуская мова была ўрадавай, навуковай, дыплёматычнай. Мінулі шчасьлівыя часы магутнага Вялікага Княэьства Літоўскага. Беларускі народ — шчыры, спакойны, даверны—трапіў у страшэнны культурна-сацыяльны ўплыў народаў хітрэйшых і менш ідэалістычных.

Гэты ўплыў дорага нам каштаваў у розных галінах — а між іншым і ў галіне культурнай. Дзякуючы гэтаму ўплыву прапалі для нашае нацыянальнае культуры гэткія адзінкі, як Адам Міцкевіч, Дастаеўскі, Манюшка, Сыракомля й шмат, шмат іншых уталентаваных сыноў нашага вялікага народу.

Але не пра гэта хачу я цяпер пісаць.

Наш культурны сон у працягу трох вякоў, апрача страты геніяльных Беларусаў, даў і іншыя страты. Аднэй з найбольш балючых культурных стратаў беларускага народу — асабліва балючай для нас, студэнцкай моладзі, — ёсьць факт, што на працягу доўгіх вякоў не разьвівалася беларуская навуковая мова. Гучная, прыгожая беларуская мова — тая мова, якой гаварылі каралі, вучоныя, біскупы XIV, XV і XVI стагодзьдзяў, тая мова, у каторай было надрукаванае трэцяе з чаргі эвангельле ў нацыянальнай мове, тая мова, ў якой напісаны—наша гордасьць! — Літоўскі Статут — была брутальна выкінутая мовамі польскай і расейскай.

Беларуская аднак мова была ў народзе, гучэла чароўнымі байкамі й казкамі, грымела грознымі сказамі, зьвінела пераліўамі песень. Ня зьгінула! Захавалася! Разьвілася!

Але разьвілася не ўва ўсіх напрамках: бо й як-жа магла разьвіцца беларуская лекарская ці юрыдычная мова, калі Беларусу пан — нацыянальны й грамадзкі вораг — не дазваляў пакінуць сахі, касы, каня, калі „шырокі сьвет", у які Беларусу была зачынена дарога, агранічаўся для яго да вайсковых казармаў і шынка.

І мы, як гэта ня сумна, ня маем амаль ніякай навуковай тэрміналёгіі. А яна нам неабходна патрэбна — калі ня сяньня, дык за некалькі год, месяцаў, тыдняў, а мо й дзён! Мы-ж будзем друкаваць свае пачатковыя, гімназіяльныя, унівэрсытэцкія падручнікі! У беларускай мове мы будзем пісаць свае навуковыя працы, справаздачы з досьледаў і г. д.

І вось тут я бачу тую важную справу, пра якую кажа загаловак гэтае стацьці. **Важнай, актуальнай справай зьяўляецца апрацоўка вялікага беларускага навуковага слоўніка.** Парушаю я гэтую справу цяпер яшчэ таму, што ў сучасных абставінах жыцьця Беларусаў магчымасьці нацыянальнай працы вельмі вузкія, а апрацоўку слоўніка хіба вельмі цяжка падвесьці нават пад параграф аб „бязпечнасьці публічнай". Таму-ж, што гэта справа вельмі важная, а мы — студэнты Беларусы — мала працуем нацыянальна, дык павінны ёй актыўна заняцца.

---

Тыя з нас, хто меў шчасьце(!) вучыцца ў беларускіх гімназіях, хіба памятаюць, як няпрыемна рэзалі вуха й вока розныя навуковыя тэрміны, каторымі кары-

сталіся нашыя настаўнікі. Не кажу, што гэта здаралася заўсёды, але звычайна беларускія тэрміны тварыліся так: настаўнік „старога рэжыму“ браў расейскую кніжку, расейскі тэрмін перапісваў больш-менш беларускім правапісам і чытаў яго больш-менш паводле беларускай фонэтыкі; настаўнікі „новага парадку“ рабілі таксама, але апіраліся ўжо на польскіх тэрмінах. Ясная рэч, — гэтага ня можна стаўляць у дакор нашым настаўнікам, бо ведама, у якіх цяжкіх абставінах вялася й вядзецца іх праца. Часу й магчымасьцяў на апрацоўку беларускай тэрміналёгіі напэўна больш маем мы, а не яны.

Будучы ўжо на ўнівэрсытэце, я пераканаўся, якая гэта цяжкая справа. Я пісаў пабеларуску рэфэрат на біолёгічную тэму й што хвіліну мусіў задумвацца, як перадаць дадзены тэрмін. Рэфэрат выйшаў з пункту гледжаньня мовы, коратка кажучы, безнадзейны, бо ці-ж мне ствараць беларускую номэнклятуру—спаўняць тую цяжкую працу, якую ў іншых народаў рабілі соткі вучоных на працягу вякоў?

А прыпомнім сабе, як мы ў гутарках на навуковыя тэмы між сабой пачынаем з вінаватай усьмешкай устаўляць польскія словы ў беларускую гутарку, а пасьля — з саромлівым замаўчаньнем—пераходзім і зусім на польскую мову. Гэта факты. Брыдкія факты, абніжаючыя нашую нацыянальную годнасьць.

Трэба з гэтым скончыць. Мы павінны апрацаваць Беларускі Навуковы Слоўнік, каторы па меры магчымасьці выкарыстаўбы ўсе існуючыя жаролы, а пайменна: народную гутарку (гэта перадусім!), міжнародныя выражэньні, існуючыя ўжо беларускія навуковыя слоўнікі і г. д.

Гэта праца — я ведаю — драбязная, доўгая, цяжкая й няўдзячная, але яе ўсёроўна Беларусы павінны зрабіць. І мне здаецца, што нашым абавязкам — абавязкам цяперашніх студэнцкіх пакаленьняў — ёсьць выканаць гэтую працу.

Не хачу перацэніваць „in plus“ нашых здольнасьцяў, але думаю, што шчырая праца некалькіх дзесяткаў маладых людзей ня можа ня даць дадатных вынікаў. Мо’ ўдасца нам стварыць хоць нейкі твор, каторы будзе асновай дзеля далейшай дыскусіі ў галіне беларускай навуковай тэрміналёгіі.

Ведаю, што на маю прапазыцыю знойдуцца закіды, што ня варта брацца за гэтую працу, каторай вынікі ня пэўныя й што мы напэўна ня зробім болей, чым ужо зроблена ў гэтым напрамку ў Савецкай Беларусі. У адказ на гэта магу сказаць, што мова ў савецкіх беларускіх слоўніках (прынамсі ў тых, якія я бачыў) зьяўляецца беларускай карыкатурай расейскай мовы. Там навуковыя тэрміны творацца якраз так, як у нашых вучыцялёў „старога рэжыму“. А калі-б я ў сваім крытыцызьме нават і перавялічыў заганы савецкіх беларускіх слоўнікаў, дык і так апрацоўка новага беларускага навуковага слоўніка нікому шкоды ня зробіць.

---

Мой канкрэтны плян працы ў агульных нарысах прадстаўляецца гэтак:

Працай над беларускім лекарскім слоўнікам будзе кіраваць Беларускі Студэнцкі Саюз або Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы праз спэцыяльна выбраную камісію. Працаваць будуць усе студэнты Беларусы.

Працу падзелім на групы—паводле спэцыяльнасьці студэнтаў — і будзем асобна апрацоўваць Лекарскі Слоўнік, Земляробскі Слоўнік, Юрыдычны Слоўнік і г.д.

У працы я думаю апёрціся на нейкім абшырным чужа-моўным слоўніку хоць-бы на польскім(гэта толькі дзеля матарыялу — каб нічога не прапусьціць).

На кожнае слова трэ’ будзе апрацаваць наступныя рубрыкі:

1. Міжнародны назоў (пераважна лацінскі).
2. Нямецкі або францускі назоў.
3. Польскі назоў.
4. Расейскі назоў.
5. Украінскі назоў.
6. Народныя беларускія назовы.
7. Існуючы навуковы беларускі назоў.
8 Прапанаваны назоў.
9. Зацемкі.

Пункты „1—5“ можна будзе выпаўніць на падставе чужа моўных слоўнікаў. Пункт „6“ трэба будзе апрацаваць у кантакце з магчыма найбольшай колькасьцяй Беларусаў. Для пункту „7“ трэба будзе перашукаць усю даступную беларускую літаратуру. Пункт „8“ будзе ўжо вынікам творчае працы аўтара.

Прыгатаваўшы такім спосабам матарыял, мы зможам прадыскутаваць яго й вырабіць беларускую тэрміналёгію.

Праца гэта ня лёгкая. Але-ж праца — гэта наш абавязак у адносінах да адраджэньня нашага народу.

Доўгая гэта праца й таму трэба ўзяцца за яе зараз-жа!

---

На заканчэньне я зварочваюся з просьбай да цярплівага чытача, каб ён не забыўся пра маю прапанову, каб падумаў над ёй, ды вакацыйны час пасьвяціў зьбіраньню адпаведных матарыялаў і тэрмінаў да слоўніка, ды ўрэшце, каб справу гэтую ў найбліжэйшым часе шырэй абгаварыць.

**У. Кароль**

# NIEŚMIAROTNAŚĆ LUDZIEJ U ICH VIALIKICH ČYNACH

*(50-tyja ŭhodki Instytutu Pasteura ŭ Paryžy)*

Karotkaje jość žyćcio čałavieka, dziela čaho svaim bliskim vykazvajučy pry jakoj nahodzie pažadańni kažam, kab žyli „100 hadoŭ“. Akazvajecca adnak, što nadta mała takich jość miž nami, katoryja pieražyli całaje stahodździe. Ale jość ludzi, jakija ŭžo tysiačy hadoŭ žyvuć svaim dobrym imiem, svajej pracaj, — jany pakinuli siabie ŭ svajej hienijalnaści. I tut, nakolki žyćcio 100 hod, 20, abo 60 — nie źjaŭlajecca vialikaj roźnicaj, dyk žyćcio hetych meteoraŭ čałaviectva śviecić usim u praciahu epochaŭ. Hienij čałaviectva zaŭsiody baroŭsia za lepšuju budučyniu ludzkoj hramady. Adnym z hetkich zmahańniaŭ zaŭsiody była baraćba z najbolšym niaščaściem — z chvarobaj. I ŭ hetym vialikija zasłuhi maje Ludvik Pasteur (čytaj Paster), rodam Francuz (radziŭsia Pasteur 27.XII. 1822, pamior u 1895 h.). Da časoŭ Pasteura zaraznyja chvaroby byli kašmarnaj hrozaj całym narodam; zahładalisia na ich ludzi, jak na karu Božuju, suproć jakoj ludzkoj sile niemahčyma prociŭdziejać, bo j sapraŭdy nia šmat moh lekar pamahčy pry tahačasnym uzroŭni medycynskaj viedy. Historyja nas vuča, jak i našyja biełaruskija ziemli naviedvała niaraz zaraza, jakaja całyja dziesiatki tysiačaŭ

zabirała achviar. Na hety, poŭny makabryzmu abraz čałaviek hladzieŭ z stracham, nažal, jak začiemili, ničoha nia moh pamahčy, nia viedajučy pryčyny henych chvarob.

Pieršy Pasteur svaimi doślедami nad fermentacyjaj vina vykazaŭ, što cely chimizm, pieramieny z vinnaj moščy ŭ alkahol, adbyvajecca dziakujučy sutnaści tam bakteryjaŭ (drobnych, žyvučych kletak, bačanych u mikroskopnych pavialičeńniach). Heta było najbolšym adkryćciom, — śviardžeńniem, što ŭ pryrodzie ŭsiakija pracesy adbyvajucca pad dziejańniem henych bakteryjaŭ. Užo śledziačy chvorych, Pasteur adkryŭ pieršyja zaraznyja dla čałavieka i chvarabli vyja bakteryi chalery, a paśla adkryŭ zarazku šalonaści. U chutkim časie sam Pasteur, jahonyja vučni, a taksama j inšyja daśledčyki paznali amal uvieś „śviet niavidočnych vorahaŭ čałavieka“ — bakteryjaŭ. Druhoj ahramadnaj miery zasłuhaj Pasteura jošć toje, što jon adkryŭšy pryčynu chvaroby zaraznaj — bakteryju —daŭ lekaram aružža ŭ ruki zmahacca z jeju, adkryvajučy dziejnaść baroniačych ad jaje ščapionak. Pasteur navučyŭ pryhataŭlać i rabić upryski, biez jakich lekar nia stupiŭ-by časta šahu.

Treba zaciemić, što ŭ 1886 h. lačyŭ u Paryžy Pasteur 19 sialan-Biełarusaŭ z Smalenščyny, jakich pakusaŭ šalony voŭk j jakija šukali sabie pomačy až u Francyi. Z 19 asob vylačyŭ Pasteur 16, a try pamiarli,bo pryjechali jany zapozna.

Sam Pasteur nie adkryŭ usich zarazkaŭ, ale što jany adkrytyja— heta zasłuha vyklučna jaho, bo jon pakazaŭ, jak treba ich šukać, a paśla stvaryŭ metady ščapieńnia. Jahonaja zasłuha, što sučasnaja ŭsia medycyna asiahnuła za apošnija dziesiatki hadoŭ hetki ŭzrovień daskanalnaści.

Najbolšuju ŭdziačnaść Pasteuru ad sučasnaha śvietu pryniasło adkryćcio zarazy šalonaści j sposabu baraćby z hetym strašennym jadam.

Da jaho časoŭ kožny pakusany dzikim šalonym źvieram hinuŭ na vačoch svaich bliskich u strašennych mukach i ničoha jamu nia možna było pamahčy. Siańnia ŭžo pakusańnie šalonaha sabaki nia jošć hetakaj trahedyjaj,—užo lekar sabie z hetym radzić, tolki treba adrazu paśla vypadku da jaho źviarnucca.

Hetkim čynam Pasteur staŭsia dabradziejam celaha śvietu. Dziakujučy Pasteuru nia hinie kožnaha hodu sotki tysiač ludziej ad pakusańnia šalonaha sabaki j viadziecca naležna baraćba z zarazaj.

Dziela hetaha naležycca Pasteuru mahutny pamiatnik udziačnaści. Haračyja sercy damahalisia stvareńnia jamu pamiatnika — nie z chałodnaha kamienia, a z niečaha nieśmiarotnaha, — pamiaci asoby samoha Pasteura j jahonaj idei baraćby. Uvieś śviet uziaŭ u hetym učaście, stvarajučy „Instytut Posteura“, jaki daje mahčymaści vučonym zmahacca z chvarobami dziela dabra celaha čałaviectva.

Sioleta minaje 50 hadoŭ pracy henaj instytucyi, najpryhažejšaha pamiatnika vialikamu hieniju navuki. Z hetaha miesca składajučy česć vialikamu hieniju — šlema Instytutu Pasteur'a ad imia biełaruskaj moładzi pažadańnie płodnaj pracy dziela dabra celaha čałaviectva,— kab imia Pasteur'a j jahonaha Instytutu zaŭsiody było symbalem altruizmu navuki. Budziem ščaślivyja, kali ŭ Instytucie Pasteur'a znojducca taksama j Biełarusy, jakija-b mieli ščaście brać udzieł u vialikaj pracy dzie la postupu navuki, dziela dabra čałaviectva.

**Stasiuk Novadvorski**

# Z žyćcia litoŭskich studentaŭ

Apošnim časam adviedvaje Vilniu mnoha roznych ekskursijaŭ z Litvy. Miž inšym, u minułym miesiacy, na Siomuchu haścili ŭ Vilni litoŭskija studenty-korporanty z Koŭna j litoŭski studencki chor z Ziemlarobskaj Akademii ŭ Datnovie. Litoŭski Studencki Sajuz u Vilni zładziŭ na česć haściej uračystuju harbatku j tavaryskuju tancavalnuju viečarynu, na jakija zaprasiŭ studentaŭ Biełarusaŭ i Ukraincaŭ.

Na harbatcy ŭ ščyrych pramovach vyražany byli ŭzajemnyja pažadańni, kab tradycyjnaja litoŭska biełaruskaja pryjaźń, jak najbolš pahłybłałasia siarod biełaruskaha j litoŭskaha studenctva.

Prysutnaść haściej z Datnova j Koŭna vykarystali my dziela zdabyćcia bližejšych viestak ab žyćci studentaŭ u Litvie. Naviazana była z adnym z kiraŭnikoŭ ekskursii nastupnaja hutarka:

I. Jakija jošć vyšejšyja škoły ŭ Litvie?

— Pierad usim u Koŭnie jošć dziaržaŭny universytet im. Vitaŭta Vialikaha z hetkimi fakultetami: humanistyčny, jurydyčny, medyčny, teolohična filozofičny, techničny, pryrodaznaŭčy j matematyčny. Aprača taho ŭ Koŭnie jošć Kanservatoryja j niadaŭna załožanaja Veterynarnaja Akademija. U Šaŭlach jošć Handlovy Instytut, a ŭ Paniavieży Pedahohičny Instytut. Hetyja dva instytuty raniej byli ŭ Kłajpedzie. U Datnovie-ž užo 16 hod isnuje Ziemlarobskaja Akademija.

II. Kolki ahułam jošć u Litvie studentaŭ?

—Usich studentaŭ budzie chiba kala 6 tysiač. Pavodle aficyjalnaj statystyki tolki ŭ Universytecie im. Vitaŭta Vialikaha ŭ biahučym školnym hodzie było 3.041 słuchačoŭ (2.650 studentaŭ, 389 volnych słuchačoŭ i 2 hospitantaŭ). Z hetaha jošć 2049 mužčyn i 992 žančyny. Pavodle sacyjalnaha pachodžańnia 1295 studentaŭ źjaŭlajucca synami ziemlarobaŭ, 358 — handlaroŭ, 201—rabotnikaŭ, a rešta syny baćkoŭ z inšymi prafesijami. Pavodle nacyjanalnaści 2396 Litoŭcaŭ, 488 Žydoŭ, a rešta inšych nacyjanalnaściaŭ. Najbolš studentaŭ studjuje prava, ekanomiju, medycynu, techniku j humanistyku.

U Akademii ŭ Datnovie studjuje 217 asob. Čas navuki tryvaje 3 z pałavinaj hady, pry tym kožny student paśla skančeńnia Akademii musić adbyć 9 mies. praktyku ŭ prykładnych haspadarkach.

III. Ci isnuje płata za navuku?

— Płacić za navuku treba, ale nia tak šmat (200 litaŭ u hod). Ekzaminy-ž biaspłatnyja. Možna ich zdavać u praciahu hodu, u davolnym časie, paśla prasłuchańnia vykładaŭ, parazumieŭšysia pierad hetym z prafesaram. Kali chodzić ab płatu, dyk treba zaciemić, što studenty mohuć karystać sa stypendyjaŭ i roznych palohkaŭ. Mnohija studenty studjujučy pracujuć u ŭradach i roznych pradpryjemstvach, zarablajučy sabie na žyćcio j navuku, naprykł. z usich studentaŭ Kovienskaha Universytetu majuć pasady 565 čałaviek. Niekatoryja studenty ŭtrymlivajucca z korepetycyjaŭ.

IV. Jakija majecie studenckija arhanizacyi?

— Dakładny lik i nazovy padać ciažka. Isnujuć arhanizacyi roznaha charaktaru: navukovyja, sama-

pomačnyja, ideolohičnyja, tavaryskija, spartovyja i inš. Ideolohična dzielicca studenctva na 3 kirunki: 1) taŭtininki — nacyjanalisty; 2) chryścijanskija demakraty j 3) levy—demakratyčny kirunak.

V. Jak pradstaŭlajecca studenckaja presa?

—Jość mnoha roznych časapisaŭ, z jakich na ŭvahu zasłuhoŭvajuć pierad usim tydnioviki: „Akademikas“ i „Studenckija Dni“.

VI. Ci pryjmajuć udzieł studenty ŭ hramadzkim i palityčnym žyćci?

—Litoŭskaje studenctva ahułam žyva cikavicca ŭsimi prajavami žyccia svajho narodu; možna skazać, što jość navat pieradavym elementam i horača reahuje na ŭsie padziei.

VII. Jakija adnosiny studentaŭ Litoŭcaŭ da inšych nacyjaŭ?

— Najbližejšuju lučnaść majuć litoŭskija studenty z łatyšskim i estonskim studenctvam. Utrymlivajem kantakty i z studentami inšych nacyjanalnaściaŭ. Adnosna-ž Biełarusaŭ nastroi litoŭskaha studenctva pryjaznyja — i mnohija z nas z vialikim zacikaŭleńniem śladziać biełaruski adradženski ruch.

Na hetym była zakončana naša infarmacyjnaja hutarka z sympatyčnym i vietlivym pradstaŭnikom litoŭskaha studenctva.

---

Adnačasna padamo niekalki infarmacyjaŭ ab litoŭskich studentach u Polskim Haspadarstvie. Voś-ža ŭsich litoŭskich studentaŭ u polskich vyšejšych škołach jość 156 asob. Z hetaha ŭ Vilenskich vyšejšych škołach vučycca: 116 Litoŭcaŭ, u Varšavie — 18, u Paznani — 11, u Krakavie — 3, u Lublinie — 2, u Lvovie — 1, u Łomžy — 3 i ŭ Volnym Mieście Hdansku — 2. Najbolšy lik litoŭskich studentaŭ jość na fakultetach: praŭnym, matematyčna-pryrodaznaŭčym i ahranamičnym.

U Vilni studenty Litoŭcy majuć svaju arhanizacyju — Litoŭski Studencki Sajuz, — dziakujučy jakoj biełaruskaje studenctva maje niaraz mahčymaść bližej paznajomicca z litoŭskim bratnim narodam i dziakujučy jakoj raźvivajecca j pahłyblajecca sužyćcio j pryjaźń biełaruskich i litoŭskich studentaŭ.

N.

# Каму расьцьвіў белы бэз?

Блакіт нэапалітанскага заліву моршчыцца сярэбранай луской і дрыжыць у гарачым паветры яснага неба паўдня. Ляніва хістаецца гібкая лодка ў крыштале салёнай вады, сунецца ціха ўпярод, вострым дзюбам уразаецца ў дробныя хвалі, углядаецца ў пяшчанае дно й калышыцца з ветрам маўклівым на ўзьбярэжжы распаленых скал.

Неабхоплены ўзрокам і думкай, недасягнуты сіні прастор вышыні абнімае драмуча зямлю. Сонца жар упіваецца ў жвір, залаціцца на збоччы вулькану, серабрыць дыму вянок над кратэрам і скача па стрэхах бляшаных, па сьценах пахіленых хат. Па дарозе часамі спаткае вінніцу,- тады лісьці цалуе паўднёвых расьлін і атручвае іх сваім жарам, з найдалейшых каморак ваду адбірае; яны-ж гінуць ад смагі пад абманчывай ласкай.

Ужо ня цешаць паездкі ў лодцы; хвалі нудна адна за другою бягуць.

Залатую чупрыну вецер разьвеяў, нават вочы сінеюць блядней, чым вада, і блукаецца ўзрок над Нэапалям — сівым, прадрамаўшым стагодзьдзі пад дымнай гарой. Стрэхі, стрэхі і стрэхі, вузкіх вулачак ходы, толькі эўкаліпт, разцягнуўшы галіны, кліча вятры к' сабе.

Вось Нэапаль, узаўтра Афіны ці Рым, і Вэнэцыя ў лодках калыша, а за тыдзень, за два ўжо разгуль ы Парыж ап'яняе віном, песьняй, музыкай, уцехай.

Сьвет вясельля, гульні непраспаных начэй у шчасьлівай краіне францускай.

Палац графаў над люстрам Сэкваны разсеўся і купае бель сьценаў у мутнай вадзе, вокны блескам ракетаў і рэфлектараў сьвецяць.

Вінаград абвівае вэранду вянком, глуміць грук па бруку калясьнік і хавае ў лісьці шум ночаў вялікага места.

Змучаны танцам выходзіць бляндын з душнае салі ў сад. Нізка скланіліся яму туліпаны, канваліі звоняць нясьмела, дрыжаць, розы хіляць разчынены вусны, шэпча ціха штосьці трава.

Бэз закачаў кучаравай страхою, пах свой, як дар, яму шле і галавою санліва вітае поўначы дальняй дзіця.

Зоры гараць над зямлёю ў высі, блескам дрыжаць, як калісь, вельмі даўно ўжо... даўно...

Парна навокал, душна й цесна, мляўкі пах кветак у паветры вісіць.

Бялеюць сьцены пакінутага замку. Зарослыя травою дарожкі зелянеюць сьвежасьцю вясны. Сачысты хмель чапляецца за разьбітую шыбу, паломаную раму і пнецца на мохам парослую паржавелую страху. На клёмбах перад ганкам зьдзічэўшыя розы качаюць белымі галоўкамі і разсяваюць пах свае душы, а сьнежныя вочы юнацкіх канвалій звоняць цішэй вясковага дня.

Белая бяроза сьцеражэ уваходу. Разьвівае на вятры доўгія хісткія галіны ў вянку маладых лісткоў. Тапалі серабрацца над брызгамі фантанны з крынічнае вады. На патрэсканым ганку прыліпнулі леташнія пажаўцелыя лісты.

Непадмятаныя алеі хаваюцца ў гушчары хмелю, дзікага вінаграду, язьміну й бэзу.

А ён расьцьвіў у гэтую пагодную раніцу пад сінім небам далёкай Беларусі і качае галоўкамі пад песьню зэфіру. Купае белыя краскі ў цёплых праменьнях і сьніць юнацкае жыцьцё.

А ноч углядаецца тысячызорам у арамантныя лісточкі кучаравых кветак і льле блеск на сонную зямлю. Дрыжыць прастор сінеючае далі, пахам веснавым хвалюецца пара і ап'яняе хмелям разьвіўшае жыцьцё.

І падаюць лісточкі белага бэзу, — як матылькі зьлятаюць з заспаных галовак на зелень буйных траў. Кажуць ночы байку аб песьні і аб шчасьці, што дзесь за морамі блудзіць і гоніць за ўцехай, якой ня мог даць край.

Каму цьвіце тут бэз і пах свой пасылае ў майскі, ціхі вечар, каго да сну калыша й песьні пяе ціха пад небам веснавым?

—о—

Сінь вачэй мутнее ад непраспаных ночаў у душнай парнай залі.

Ня ведае, што бэз цьвіце ў паўночным краі і шле яму прывет у ціхі, майскі вечар.

*Раса*

**Kožny student Biełarus U. S. B. pavinien być siabram Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu!**